## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ!

## Васіль Шпілько



Жыве ў Старым Корніне (гміна Дубічы Царкоўныя). Але калі ўжо знікнуць маразы, яго ў хаце цяжка спаткаць. Цэлымі тыднямі і месяцамі будуе ён сялянам печы. Калі гэта не так далёка, едзе сваім „Камарчыкам" зраніцы і вяртаецца на сутонку. А калі ехаць далёка, там днюе і начуе.

Васіль Шпілько як найлепшы пячнік у сваёй ваколіцы мае шмат заказаў. Добрая печ — вялікая рэч, гавораць на вёсцы. Ад добрай печы і цёпла ў хаце, і добры хлеб, булкі, мяса ў ёй можна спячы. Ды добра зробленыя печы нават упрыгожваюць памяшканні. Васіль Шпілько не ўмее рабіць дрэнных печаў.

Знайшлі мы яго ў вёсцы Махнатае пры будове печаў у новай хаце Анны Катушэўскай.

Васіль Шпілько гэтаму рамяству нідзе не вучыўся.

— Трэба было сабе зрабіць печ. Узяўся я за гэтую работу. Печ удалася на дзіва. Тады сусед наш Мікалай Мароз стаў прасіць мяне, каб зрабіў і яму такую. Я згадзіўся, — расказвае Васіль Шпілько. — Яна таксама ўдалася. Сталі ісці да мяне людзі.

— А колькі ў год робіце печаў? — запытаў я пячніка.

— Вось, напрыклад, у мінулым годзе зрабіў я 32 хлебныя печы з плітамі, 8 печаў-„ангелек" і больш як 20 печаксцяновак.

І яшчэ адно пытанне я дакінуў. — У чым сакрэт, што зробленая вамі печ заўсёды добрая?

— Мне здаецца, таму, што я люблю сваю работу і выконваю яе з прыемнасцю.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

На самай справе гарадоцкі СКР дзейнічае ўсяго два гады. За гэты кароткі час не толькі стаў на ногі, але і ўпэўнена разгарнуў крылы да далейшага інтэнсіўнага развіцця сваёй гаспадаркі. Сёння яна — вялікае прадпрыемства на 1 818 га грунтаў, у тым 1 050 га ворыўнай зямлі. І на абшырных, як вокам сягнуць, палетках, і на вузенькіх, што і пераскочыць можна, загончыках, якія трапілі ў яе ўладанне ў асноўным ад сялян, здаўшых дзяржаве зямлю за пенсію, сёння рунее на 530 га жыта, дружна ўзыходзіць на 170 га авёс, засеян на 20 га ячмень, пад бульбу адведзена 15 га, а рэшта, г. зн. каля 300 га, засеяна кармавым і пастэўным лубінам.

Гарадоцкі СКР пакуль што не вядзе гадоўлі быдла, і таму сенакосы і пастэўнікі загаспадарвае, угнойвае і траву прадае сялянам. Гэта не прыносіць яму даходу. Ён імкнецца толькі вярнуць свае ўласныя, патрачаныя на абробку і ўгнаенне сродкі. Але неўзабаве пачне ўзводзіць у Залуках вялікую ферму гадоўлі ўбойнага быдла, букатаў. На ферме будзе 800 стойлаў для букатаў і 200 — для цялят. Зразумела, што тады ні сена, ні кармоў не давядзецца прадаваць.

# Што чуваць у гарадоцкім СКР-ы?

Ужо цяпер СКР з размахам вядзе гадоўлю і адкорм свіней. У Залуках знаходзіцца ферма з 60 мацёрамі, а ў Белявічах — адкормачная ферма з 800 падсвінкамі. Праўда, адкорм вядзецца ў асноўным толькі ў летнім сезоне. Але працаўнікі спулдзельні робяць намаганні перайсці на адкорм на працягу цэлага года, першыя спробы ў гэтым далі заахвочваючыя вынікі. Зрэшты, дзякуючы належнаму догляду, кормнікі на эскаэраўскай ферме хутка набіраюць вагі — па 536 грам у суткі, што з'яўляецца рэкордам для гадоўлі ў СКР-ах Беласточчыны. У мінулым годзе спулдзельня даставіла дзяржаве 1091 кормніка, г.зн. звыш 10 тон свініны. У будучым годзе спулдзельня пачне ўзводзіць у Белявічах новую адкормачную ферму беконаў на 1000 сталых стойлаў, у бягучым годзе пачынае будаваць у Залуках новы хлеў на 110 мацёраў, а ў наступным годзе будзе працягваць гэтую будову аж да атрымання наступных 490 стойлаў. Спулдзельня хоча мець ферму з 600 мацёраў.

Апрача гэтага, гарадоцкі СКР адным з першых на Беласточчыне будзе займацца пчалаводствам. Хоча ён мець пасеку прынамсі з 500 вуллямі. Пры тым гэта мае быць вандроўная пасека, якая будзе параскідана брыгадамі не толькі па Гарадоцкай гміне, але па суседніх з ёю ваколіцах. Пасека — гэта не толькі мёд, але і павышэнне ўраджаю на палях, агародах і садах.

Словам, вельмі добрыя чуткі ідуць з гарадоцкага СКР.

(іс)




*Шумят вэрбы, шумят ліпы,*
*што я й посаділа.*
*Нэма мого міленького,*
*што я й віерно любіла,*
*нэма мого міленьково,*
*што я й віерно любіла.*
*Нэма його, вжэ й нэ будэ —*
*поіехав до ліеса.*
*Сказаў росці діевчынонъці*
*аж на трэтюю вэсну,*
*сказаў росці діевчынонъці*
*аж на трэтюю вэсну.*
*Росла, росла діевчынонька,*
*росці пэрэстала.*
*Ждала свого міленького —*
*аж плакаті стала,*
*ждала свого міленького —*
*аж плакаті стала.*
*Плачут очы, плачут кары —*
*нэшчасная доля:*
*полюбіла салдатіка,*
*тры вэчэры стоя,*
*полюбіла салдатіка,*
*тры вэчэры стоя.*
*Нэ я його полюбіла —*
*полюбіла маті:*
*зоставіла свое дітя*
*всёй віек гороваті,*
*зоставіла свое дітя*
*всёй віек гороваті.*
*Сонце сходіт — я журусе,*
*а заходіт — плачу:*
*„Вжэ ж я й свого міленького*
*всёй віек нэ зобачу,*
*вжэ ж я й свого міленького*
*всёй віек нэ зобачу".*
*Шчаслівая та бэроза,*
*што й выросла ў полі —*
*шчаслівая та діевчына,*
*што й нэ знае любові,*
*шчаслівая та діевчына,*
*што й нэ знае любові.*

Ад Веры Міхалюк, 56 год, вёска Курашава гм. Чыжы, запісаў 3 лютага 1977 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## Ледзь не Венецыя

— Як ужо вясна або восень, ці нават летам пасля паруднёвага дажджу, дык чыстае гора. Хоць ты лодкай або ў рыбацкіх ботах праз вуліцу прабірайся, — скардзяцца жыхары Белай, што ў Бельскай гміне.

І сапраўды. Толькі крыху макрэйшае надвор'е — і вуліца, якая з'яўляецца часткай шашы з Бельска ў Нараў, змяняецца ў глухую байталоху. Вада ды балота. А найглыбей якраз каля самага аўтобуснага прыпынка. І будзь тут разумны, ды сядзь у аўтобус па-людску! Хіба што браць ад паловы панадворка разбег ды ляцець шчупаком у адкрытыя дзверы, б'ючы рэкорды ў скоку ў даль. Бо іншага выхаду няма. Нават блізка вуліцы стаяць нельга. Так і глядзі, як з-за павароту высунецца машына ды баўтане ў гэтае стаячае вадзяное раздолле, аж хваля балотна-вадзяных пырскаў на метраў шэсць у бок паляціць. І ў якой бы ты вопратцы не быў, ўсё роўна ў чорную або рыжа-рабую абернецца. Ды не толькі! За кожным праездам машыны — абавязкова вокны ў хаце мыць трэба. А тут часамі і канём у поле выязджаць даводзіцца. Ды да суседзяў за нейкай патрэбай пайсці неабходна. Чалавек жа не сам жыве. І які з гэтага выхад? Можа Белую ўзяць ды ў Венецыю замяніць?! Цэлы натоўп турыстаў прыехаў бы, Чыстыя грошы пасыпаліся б. Падвойны даход! Падумаць трэба было б... Можа, якраз удалося б. Хіба што другі выхад знойдзецца? Хто ж і калі над гэтым падумае?

(ша)




*Кажуць, што ў Трасцяныцы з надыходам вясны развяліся зладзеі. Не пагарджаюць сялянскім дабром. У Трафіма П. забралі некалькі курыц, у Сцяпана О. — авёс, у Каці О. — бульбу. У апошні час з поля падабралі авечку ў Васіля О. Найгорш, што пакуль што няма на іх спосабу.*

„Бе-ла"

## З пашанай да роднага

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта — ушанаванне свайго роднага. Нягледзячы на розныя перыпетыі, якія перажывала навучанне беларускай мовы ў школах Беласточчыны, гэты прадмет у аўгустоўскай школе заўсёды вывучаўся. Пра яго дбалі настаўнікі, любілі яго дзеці. І цяпер тут усе вучні наведваюць урокі роднай беларускай мовы, якой навучае Вера Малішэўская, чытаюць беларускія кніжкі, выпісваюць „Ніву" з „Зоркай", дэкламуюць беларускія вершы, ставяць інсцэнізацыі на беларускай мове і спяваюць беларускія песні на розных школьных урачыстасцях. Беларуская мова даўно тут выйшла і па-за школу; напрыклад, гуртох вясковых гаспадынь у бягучым годзе паставіў пад кіраўніцтвам настаўніка-пенсіянера Я. Аніська і настаўніцы М. Манаховіч дзве аднаактовыя п'есы, мясцовая арганізацыя Саюза сацыялістычнай польскай моладзі ў сваёй насценнай газетцы ў клубе „Руху" змяшчае матэрыялы на беларускай мове. Гэтая пашана да роднага слова і культуры разам з працавітасцю вучняў і настаўнікаў з'яўляецца падставай слаўных традыцый у навучанні і выхаванні школы. Сёння аўгустоўскія педагогі далічваюцца звыш пяцідзесяці выпускнікоў тутэйшай школы, якія здабылі вышэйшую адукацыю пры народнай уладзе і цяпер працуюць на розных адказных пасадах па ўсёй краіне, у тым ліку і навуковымі працаўнікамі, напрыклад, у Варшаўскай палітэхніцы.

**М. Гайдук**

## У нашай бібліятэцы

У вёсцы Зубава, што ў Бельскай гміне, ёсць бібліятэка. Вялі яе Люба і Кандрат Андрэюкі. Гэта сумленныя людзі, любілі сваю працу. Кожнаму чытачу ўмелі падабраць кніжку. Ды вось Люба Андрэюк пасля доўгай хваробы памерла, а яе муж захварэў. Будзе вельмі шкада, калі бібліятэка перастане існаваць. Напэўна знойдуцца ў вёсцы такія ж любіцелі кніжкі, як папярэднія бібліятэкары.

**Дубінка**



## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

**ФУТБАЛІСТЫ З ГАРАДКА**

На здымку малодшая каманда футбалістаў з Гарадка ў складзе: Андрэй Хшаноўскі (камендант каманды), Міраслаў Лайко, Яўген Паплаўскі, Веслаў Паплаўскі, Андрэй Кучынскі, Аляксандр Цыванюк (варатар), Аляксандр Кандрусік, Юрка Шышкевіч, Яўген Самойлік. Ірэнеуш Матвейчык і Вячэслаў Сідар.

У пачатку мая гэтага года яна сыграла матч у сябе, на гарадоцкім стадыёне, са старэйшымі сябрамі. Матч закончыўся перамогай старэйшай каманды (8:3).

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

# MICK JAGGER



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвалі:**
Э. Маркоўская, Д. Мразоўская, Б. Врублеўская, Б. Бароўская, А. Банькоўскі з Бельска, Г. Гаінская, Г. Капчэская са Страблі.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: М. пасля смерці свайго мужа займала гаспадарку, якая была ўласнасцю яе мужа. Яе пасерб, які пражываў у іншым ваяводстве, вярнуўся на гаспадарку і самавольна заняў частку памяшкання і гаспадарчых будынкаў, гаворачы, што гэта яго бацькаўшчына і што толькі ён мае права на гаспадарку і, калі захоча, то выганіць М. з гаспадаркі. Праўда, адміністрацыйныя ўлады прызналі, што гаспадарка з'яўляецца супольнай уласнасцю М., і яе мужа, але пасерб лічыць гэтае рашэнне няважным, бо гаспадарка была ўласнасцю яго бацькі, а мачыха прыйшла на гэту гаспадарку 12 год таму назад. Якія правы прыслугоўваюць М.?

АДКАЗ: Калі пасерб самавольна ўвайшоў на гаспадарку, то на працягу аднаго года М. можа патрабаваць, каб суд загадаў пасербу пакінуць гаспадарку. Нават калі б ён быў выключным уласнікам гаспадаркі, ён не мае права самавольна адбіраць яе ад таго, хто з гаспадаркі карыстаецца. У сапраўднасці ён з'яўляецца супольным з М. уласнікам гаспадаркі. Ён без асноў закідае, што акт уласнасці, выданы адміністрацыйнымі ўладамі, з'яўляецца няважным. Калі гэты акт правамоцны, ён з'яўляецца важным, нават калі б быў нязгодны з законам. Нават калі б гэты акт быў уняважнены адміністрацыйным парадкам, то М. наследавала б па закону палавіну гаспадаркі, а таму не можа быць мовы аб адабранні ад яе гаспадаркі. Пасерб можа падаць у суд на падзел гаспадаркі, і тады суд вырашыць, каму пакінуць гаспадарку, а хто з іх атрымае сплату.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, з Міркам пазнаёмілася я на канікулах. Часта сустракаліся. Быў заўсёды мілы, ветлівы. Распачаўся школьны год, і я паехала ў Беласток. Цяпер бачымся толькі ў суботы і нядзелі, калі прыязджаю я дамоў. Мірэк працуе ў Бельску, але жыве дома. Нядаўна я даведалася, што ён дрэнна аба мне гаворыць, а сам за дзяўчатамі ганяецца. Але я не асмельваюся аб гэтым яго спытаць, баюся, што пагневаецца. Але непакоіць мяне гэта страшна. Часта, зашыўшыся ў куток, выплачуся ціхенька, каб ніхто не бачыў. Што будзе, калі пакіне ён мяне? З нецярплівасцю чакаю канікулаў, каб вярнуцца на вёску і бачыць яго штодзень. Ды і яшчэ адно мяне мучае. Мірэк восенню ідзе ў войска. Гэта ж два гады расстання. Гэта столькі, колькі асталося мне яшчэ вучыцца ў ліцэі. Ці не пагаснуць за гэты час яго пачуцці да мяне?

Валя з Бельшчыны

Валя! Не жыві ў няўпэўненасці. Пры найбліжэйшай магчымасці скажы Мірку, што ты чула аб ім. Тое, што гавораць людзі, неабавязкова мусіць быць праўдай. Не бойся таксама расстання на час вайсковай службы. Усіх жа хлопцаў гэта чакае. Войска, як кажуць, школа жыцця. Якраз расстанне і ўмацоўвае ўзаемныя пачуцці. Так што не непакойся наперад. Усё будзе добра.

Дарагі Астрон! Мае дзеці даўно не жывуць разам, а мне ўчора прыснілася, быццам маюць яны зноў сыйсціся і другі раз бяруць шлюб. Добра памятаю, што быццам яны разам не жывуць і варожа адносяцца адзін да другога, а тут раптам адзін другому ўсё прабачае і пачынаюць новае супольнае жыццё. А я выбіраюся на свята ў суседнюю вёску. Дайшла да незнаёмай вёскі, а там навокал шмат снегу, лёду і параскіданага дрэва. Калі я выйшла з гэтай вёскі, гляджу: насупраць забалочаная дарога, а налева — жвіроўка. Пытаюся я людзей, якой дарогай дайсці да вёскі, якую я шукаю. Кажуць, што трэба ісці жвіроўкай. І я пайшла. Пры дарозе ўбачыла краму. Там стаялі людзі, якія куплялі булкі і памідоры.

## ВЕР-НЕ ВЕР

А два тыдні таму назад сніцца мне, быццам доўта я спала, пасля прачнулася, паслала ложак і пачала есці хлеб, запіваючы яго вадой. Хтосьці мне кажа, што хлеб і вада — гэта не яда. Выходжу на панадворак. Лета. Сонечны дзень, блакітнае неба, а мы жывем ля бярозавага лесу. На панадворку бегае шмат курэй. А тут прыйшло двое мужчын, і пачалі яны красці курэй ды ўцякаць з імі ў лес. Сын мой сядзіць нешчаслівы, а я яго пацяшаю. Кажу, каб пайшоў у канец вёскі, можа там знойдзе сапраўдных сяброў.

Рэгіна з Бельска

Што дзеці бралі зноў шлюб — будзе нейкая непрыемнасць, сварка. Снег у спалучэнні з лёдам і дрэвам — таксама сямейная непрыемнасць. Небяспеку прадвяшчае і забалочаная дарога, якую вы бачылі. Добра аднак, што пайшлі вы жвіроўкай — думаю, што неяк пазбудзецеся клопатаў.

Другі сон гаворыць аб тым, што вашы справы папpавяцца: сонечны дзень, блакітнае неба, бярозавы лес. Але сцеражыцеся: нейкі злодзей крадзе курэй, дык спадзявайцеся ў вашым жыцці нейкай варожасці.

**Астрон**

## Этнаграфічнае акенца



*Дом Лукаша Сапежкі, в. Пуціска.* *Фота Васіля Дамброўскага.*

## Куток практычных ведаў




## Стравы з крупы

Пакуль бульба трапіла ў Еўропу пасля адкрыцця Амерыкі, паўсюдна яе месца займалі крупы з рознага збожжа. Сёння выкарыстоўваем мы крупы даволі абмежавана, бо значна лягчэй зварыць бульбу. А ўсё ж пра крупу забывацца нельга.

### АЛАДКІ З АЎСЯНЫХ ХЛОП'ЯЎ

На 3 шклянкі аўсяных хлоп'яў трэба ўзяць 2 шклянкі малака, 3 яечкі, соль і тлушч для смажэння. Гарачым кіпячоным малаком заліць аўсяныя хлоп'і і пакінуць на дзве гадзіны. Пасля гэтага дадаць жаўткі яечак, соль, усё размяшаць, спалучыць са збітай пенай з бялкоў. Тоненькія аладкі смажыць адразу на разагрэтым тлушчы. Падаваць з тварагом са смятанай і цукрам.

### ЗМЕЛЕНЫЯ КАТЛЕТЫ З КАПЧОНАЙ ТРАСКІ І ПАНЦАКУ

На дзве капчоныя траскі (каля паўкілаграма) узяць шклянку панцаку, 3 шклянкі вады, лыжку тлушчу, 1 цыбуліну, 2 яечкі, соль, перац, цёртую булку, тлушч для смажэння. Зварыць панцак, траску (дорша) ачысціць са скуры і касцей. Палавіну рыбы і зваранага панцаку прапусціць праз мясарубку, дадаць рэшту рыбы і нязмелены панцак, падсмажаную дробна нарэзаную цыбулю, соль, перац, яечкі. Усё разам размяшаць. Фарміраваць прадаўгаватыя катлеты, мачаць іх у цёртую булку і смажыць. Падаваць з таматным соусам, альбо салатам з капусты.

### СУП З МАННАЙ КАШЫ

Узяць адну моркву, 1 пятрушку, 4 сушаныя грыбы, 2 лыжкі маннай кашы, 1 лыжку мукі, 1 лыжку масла, соль і зелень пятрушкі. Моркву, пятрушку, грыбы зварыць у 2 літрах вады, а пасля нарэзаць усё гэта. З маннай кашы і мукі зрабіць засмажку на масле наварам з гародніны і грыбоў і варыць, памешваючы, мінут дзесяць. Дадаць да супа нарэзаную гародніну і грыбы, запраўляючы па смаку. Гэткі суп можна падаваць са зваранай бульбай.

### ПРАСЯНАЯ КАША З СУШАНЫМІ СЛІВАМІ

На 2 шклянкі проса ўзяць 2 шклянкі малака, 2 шклянкі вады, соль, цукар, адну лыжку масла, 15 дэкаў сушаных сліў, 1 шклянку смятаны. Слівы намачыць, закіпяціць ваду з тлушчам, дадаць крупу. Крыху падварыць, а пасля дадаць малако, соль і цукар па смаку. Адстаўляючы кашу з агню, дадаць слівы без костачак, нарэзаныя на палавінкі ці чвэрткі. Посуд з кашай накрыць, загарнуць у паперу і коўдру. І так пакінуць на нейкі час. Падаваць кашу, палітую смятанай і пасыпаную цукрам.

**Гаспадыня**




Калі праблему асвятлення ўдалося вырашыць даволі проста, то зусім дрэнна было з харчаваннем і вадой. Ужо даўно скончылася каніна. Кожны абаронца падзямелля атрымліваў яшчэ штодзённа ў сваім пайку крыху сухароў або мукі, але іх запасы на складзе хутка павінны былі скончыцца. Не намнога больш захавалася камбітлушчу і розных круп. Затое засталося шмат цукру і чаю, і гэтымі прадуктамі гарнізон быў забяспечаны надоўга. Як бы там ні было, і без таго мізэрны паёк даводзілася ўвесь час урэзваць, і камандзіры з трывогай сачылі, як змяншаюцца запасы прадуктаў на складах.

Але яшчэ горш абстаяла справа з вадой. Цяпер шлях да калодзежа, які знаходзіўся ля галоўнага ўваходу ў каменяломні, быў адрэзаны. Немцы ўзялі ўсе падходы да калодзежа пад кругласутачны кулямётны абстрэл і пільна сачылі за кожным рухам асаджаных. Нават ноччу прабрацца за вадой стала немагчыма — немцы бесперапынна кідалі над калодзежам асвятляльныя ракеты, тут было светла, як удзень, і кожныя пяць-дзесяць мінут загадзя наведзеныя кулямёты прастрэльвалі гэта месца доўгімі чэргамі. Рэдкаму смельчаку цяпер удавалася вярнуцца адтуль, і дзесяткі людзей заплацілі жыццём за спробу дастаць з калодзежа ваду. У рэшце рэшт камандаванне, жадаючы пазбегнуць лішніх ахвяр, забараніла гэтыя паходы за вадой.

Тады сапёры прапанавалі іншае выйсце. Трэба было разлічыць і прабіць нахіленую падземную галерэю, якая вывела б з каменяломняў у ствол калодзежа на некалькі метраў ніжэй за паверхню зямлі. У гэтым выпадку можна было б набіраць ваду, не выходзячы наверх. Прапанова была прынята, і яе адразу ж пачалі ажыццяўляць. Як ні цяжка было пракладваць падземную галерэю ў суцэльнай тоўшчы каменю, сапёры працавалі днём і ноччу і паступова рухаліся ўсё далей і далей, набліжаючыся да ствала калодзежа. Але, відаць, па стуку немцы здагадаліся аб гэтай рабоце. І тады яны прынялі свае контрмеры. Якраз над тым месцам, дзе ішлі работы, сапёры праціўніка прабілі калодзеж, заклалі туды ўзрыўчатку і ўзарвалі яе. Амаль гатовы падземны ход быў завалены, і пры гэтым загінула частка байцоў, якія працавалі тут. Работу давялося спыніць.

А смага станавілася невыноснай. І хутка быў знойдзены іншы спосаб здабывання вады.

На жаль, грунтавыя воды ў раёне Аджымушкая праходзяць у большасці выпадкаў глыбока пад зямлёй, значна ніжэй за той узровень, на якім знаходзіліся каменяломні. Толькі сям-там падземныя воды падыходзяць бліжэй да паверхні зямлі, і ў гэтых месцах на столях і на сценах тунеляў іншы раз з'яўляліся вільготныя плямы — праз поры вапняку злёгку прасочвалася вада. Было нават адно месца, дзе са столі павольна, але бесперапынна падалі кроплі, і, падставіўшы посуд, удавалася за дзень набраць два-тры поўныя кацялкі. У іншых тунелях былі толькі вільготныя плямы, і людзі, пакутуючы ад смагі, іншы раз прыкладвалі вусны да сцяны і пачыналі смактаць гэту вільгаць.

Высветлілася, што такім чынам можна не толькі наталіць смагу, але і назапасіць нейкую колькасць вады. Была створана спецыяльная каманда „смактуноў", задачай якіх было высмоктваць ваду са столі і сцен тунеляў. Спосаб гэты быў хутка ўдасканалены. У вільготнай столі або сцяне рабілі невялікую дзірку, і туды ўмазвалася гумавая трубачка — ізаляцыя ад электрычнага праваду. З сілай уцягваючы ў сябе паветра праз гэту трубачку, чалавек усмоктваў маленькі глыток вады, і, як бы ні мучыла яго смага, ён не глытаў каштоўныя кроплі, а зліваў іх з роту ў біклагу або кацялок.

Гэта была пакутлівая работа — гадзінамі даводзілася стаяць, закінуўшы галаву, і ўвесь час змагацца са спакусай праглынуць ваду. Акрамя таго, гэта вельмі шкодна адбівалася на здароўі — разам з паветрам чалавек уцягваў у сябе дробненькія крошкі рассыпчатага каменю, яны пранікалі яму ў лёгкія і выклікалі потым доўгі і пакутлівы кашаль, а часам нават цяжкую лёгачную хваробу.

Вядома, такім чынам удавалася здабыць параўнаўча невялікую колькасць вады, якой, натуральна, не магло хапіць на ўвесь паўтаратысячны гарнізон. Па некалькі дзён людзі не мелі ў роце ні кроплі вільгаці або атрымлівалі зусім маленькі вадзяны паёк, якога хапала толькі на тое, каб злёгку змачыць перасохлы рот. Але ніхто не скардзіўся — усе ведалі: вада здабываецца з незвычайнай цяжкасцю, і галоўную долю гэтай высмактанай са сцен вады аддавалі ў шпіталь, падтрымліваючы жыццё параненых.

(Працяг будзе.)

